## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб дзейнасці Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Рэкамендаваць Цэнтральнаму камітэту Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб задачах, функцыях і прынцыпах дзейнасці таварыства ва ўмовах суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб падпарадкаванні Пагранічных войск Камітэта дзяржаўнай бяспекі Саюза ССР, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь і ў мэтах забеспячэння гарантый непахіснасці дзяржаўных граніц Рэспублікі Беларусь і бяспекі рэспублікі, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць Пагранічныя войскі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Саюза ССР, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях да 1 снежня 1991 года падрыхтаваць праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь».

Да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь» захаваць рэжым Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Рэспублікай Польшча, устаноўлены для Дзяржаўнай граніцы Саюза ССР.

3. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб падпарадкаванні Чыгуначных войск, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць Чыгуначныя войскі, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 снежня 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па рэалізацыі гэтай пастановы.

3. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб парадку размяшчэння воінскіх фарміраванняў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь», Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што перадыслакацыя ў межах Рэспублікі Беларусь, увод і вывад з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь часцей і злучэнняў Узброеных Сіл Саюза ССР, Пагранічных, Чыгуначных і Будаўнічых войск, іншых воінскіх фарміраванняў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама парадак уводу і вываду ўзбраення, ваеннай тэхнікі, вываз матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, якія належаць ім, і іншай ваеннай маёмасці, ажыццяўляюцца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб парадку праходжання ваенных збораў і абавязковай тэрміновай воінскай службы асобамі, якія прызываюцца з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што асобы, якія прызываюцца на ваенныя зборы, а таксама для праходжання абавязковай тэрміновай воінскай службы з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пачынаючы з асенняга прызыву 1991 года праходзяць ваенныя зборы і воінскую службу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Асобы, прызваныя на ваенныя зборы і абавязковую тэрміновую воінскую службу з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, маюць права на добраахвотнай аснове праходзіць ваенныя зборы і воінскую службу за межамі Рэспублікі Беларусь толькі ва Узброеных Сілах Саюза ССР.

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб стварэнні Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць неабходным распачаць стварэнне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю сумесна з камандаваннем Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі да 1 лістапада 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб структуры і прынцыпах будаўніцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

20 верасня 1991 г.
г. Мінск.

# ЗВАРОТ
## Саюза журналістаў Беларусі да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧА

Паважаны Станіслаў Станіслававіч!

Празмерна ўзросшыя цэны на паперу, паліграфічныя паслугі, дастаўку газет і часопісаў паставілі пад пагрозу само існаванне перыядычных выданняў, загналі ў эканамічны тупік практычна ўсе рэдакцыі газет і часопісаў, большасць выдавецтваў.

Адчайныя спробы прадпрымальніцкай і камерцыйнай дзейнасці, якія робяць рэдакцыі газет і часопісаў, не ўсяляюць упэўненасці ў заўтрашнім дні. Рэальная пагроза масавага закрыцця выданняў з-за эканамічнага банкруцтва. Да чаго гэта можа прывесці, прадказаць няцяжка: інфармацыйны вакуум, які наўрад ці ліквідуюць радыё і тэлебачанне, імгненна запоўніцца ўсялякімі чуткамі і выдумкамі. На рынку інфармацыі з'явяцца нізкапробныя выданні. І тады навісне пагроза над галоснасцю і дэмакратыяй, бадай, найбольш рэальнымі заваёвамі апошніх гадоў.

Саюз журналістаў рэспублікі лічыць, што для выжывання прэсы ва ўмовах пераходу да рынку неабходна на дзяржаўным узроўні вырашыць наступныя праблемы:

1. Для грамадска-палітычных выданняў ажыццявіць фіксаванне цэн на паперу, паліграфію і паслугі сувязі на ўзроўні гэтага года.

2. Прыняць неадкладныя меры па перапрафіляванню прадпрыемстваў рэспублікі, якія выпускаюць тэхнічную паперу, на вытворчасць газетна-часопіснай паперы.

3. Дзіцячыя, беларускамоўныя і раённыя выданні, якія ў многім садзейнічаюць захаванню нацыянальнай мовы, павінны мець дзяржаўную датацыю.

4. Улічваючы, што значная частка бюджэту КПСС—КПБ дзесяцігоддзямі складвалася са сродкаў, заробленых журналістамі, трэба аднавіць сацыяльную справядлівасць. З гэтай мэтай пры вырашэнні лёсу ўласнасці КПСС—КПБ неабходна:

а) перадаць ва ўласнасць працоўных калектываў рэдакцый, у першую чаргу тых, якія ўзялі на сябе заснаванне сваіх выданняў, памяшканні, дзе яны размяшчаюцца, іншую рэдакцыйную маёмасць з улікам сродкаў, пералічаных імі раней у бюджэт КПСС—КПБ;

б) выдзеліць частку маёмасці і сродкаў, якія належаць КПСС—КПБ, дзіцячым, беларускамоўным і раённым выданням з улікам іх патрэбнасцей;

в) пагасіць са сродкаў бюджэту КПСС—КПБ запазычанасць выданняў, у ліку заснавальнікаў якіх былі партыйныя і камсамольскія камітэты;

г) перадаць на баланс ці даць магчымасць набыць па астаткаваму кошту Саюзу журналістаў рэспублікі рэдакцыйны корпус Беларускага Дома друку (пасля перасялення рэдакцый у новы будынак) для пераабсталявання яго ў рэспубліканскі Дом журналіста.

5. Пры Савеце Міністраў рэспублікі і выканкомах абласных Саветаў народных дэпутатаў стварыць матэрыяльныя фонды для падтрымкі перыядычнага друку.

6. Прыняць тэрміновыя меры па кардынальнаму абнаўленню матэрыяльна-тэхнічнай базы Дзяржтэлерадыё рэспублікі. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на гранічную зношанасць радыёвяшчальнай тэхнікі венгерскай і чэхаславацкай вытворчасці і адсутнасць айчынных аналагаў радыёапаратуры. Для закупкі радыёвяшчальнай тэхнікі і магнітафоннай стужкі, якой хранічна не хапае, Дзяржтэлерадыё рэспублікі валютных сродкаў не мае.

7. Паскорыць прыняцце рэспубліканскага Закона аб друку, які, дапоўніўшы істотныя недапрацоўкі аналагічнага саюзнага Закона, гарантаваў бы свабоду слова, забяспечваючы журналістам прававую і сацыяльную абарону.

Звяртаем Вашу ўвагу, паважаны Станіслаў Станіслававіч, і просім давесці да ведама Вярхоўнага Савета, што ігнараванне гэтых жыццёва важных для беларускай прэсы праблем вымусіць журналістаў рэспублікі прыняць узгодненыя калектыўныя дзеянні па абароне дэмакратычных норм і прынцыпаў, сваіх прафесіянальных правоў і інтарэсаў чытачоў.

З павагай
**Рада Саюза журналістаў Беларусі.**

25 верасня 1991 года.

Пасля капітальнага рамонту прыняло маленькіх пацыентаў дзіцячае аддзяленне Круглянскай раённай бальніцы. Умовы знаходжання тут намнога палепшыліся. У стацыянары на 30 ложкаў хворыя дзеці цяпер знаходзяцца разам з маці. А гэта значыць, што выздараўленне малых наступіць раней.

НА ЗДЫМКУ: прыём вядуць урач-педыятр Ларыса ЯКАЎЛЕВА і медыцынская сястра Марыя ЧЭПІК.

Фота І. ЮДАША. (БЕЛТА).

# Энергетыка з відам на штору

**«Адна дадатковая штора на акне ў зімовы час здольна павысіць тэмпературу ў пакоі на чатыры градусы. Тыя ж градусы пры незаштораным акне абыдуцца энергетыцы ў дзесяткі тысяч тон паліва штомесяц».**

**З такога параўнання пачаў размову з карэспандэнтам БЕЛТА намеснік начальніка аб'яднання «Беларусэнерга» Леў Дубовік. І дадаў: «Якімі б смелымі ні былі праекты па прымяненню новых тэхналогій атрымання цяпла і святла, непараўнальна большы эфект дасць рацыянальны падыход да традыцыйнай энергетыкі».**

Каля 50 мільёнаў кілаватгадзін электраэнергіі спажывае Беларусь. Пры гэтым ад мясцовых станцый рэспубліка атрымлівае толькі 80 працэнтаў неабходнага. Для стварэння ўласнага тэрытарыяльнага балансу мясцовыя энергетыкі ўжо не адзін год стараюцца развіваць любыя метады выпрацоўкі цяпла і святла: традыцыйныя і новыя. Напрыклад, газатурбінныя ўстаноўкі, каэфіцыент выкарыстання паліва ў якіх у параўнанні са звычайнымі ДРЭС вышэйшы ўдвая. Вядомая ў краіне сваёй эканамічнасцю Лукомская станцыя гэты паказчык трымае на ўзроўні сарака працэнтаў. Распрацаваная ў Беларусі сістэма мер, якая прадугледжвае прымяненне газатурбінных сістэм у Лукомлі і Бярозе, дазволіць ужо ў бліжэйшай будучыні знізіць капітальныя ўкладанні, давесці КВП ДРЭС да 80 працэнтаў.

Не так даўно аб'яднанне «Беларусэнерга» прадставіла на разгляд у СМ БССР прапанову аб устаноўцы падобных агрэгатаў непасрэдна ў спажыўца. Першы з іх пачне працаваць, як відаць, на будуемым Маларыцкім цэментным заводзе. Патрэбныя для тэхналагічнага працэсу цяпло і электраэнергію прадпрыемства стане «выганяць» зманціраванай прама на яго тэрыторыі турбінай.

Да перспектыўных у Беларусі адносяць прапрацоўкі, звязаныя з развіццём гідраэлектрастанцый. Аднаўляючы невялікія ГЭС, але не павялічваючы зону затаплення, выкарыстоўваючы старыя плаціны і дзесятак новых, рэспубліка праз некалькі гадоў зможа дадаткова атрымліваць каля двух працэнтаў агульнай колькасці выпрацоўваемай у Беларусі энергіі. Адна адноўленая пад Мінскам ГЭС уступіць у строй ужо ў канцы гэтага года. Звязаныя з «рэстаўрацыяй» праграмы прадугледжваюць і выпуск на тэрыторыі рэспублікі неабходнага абсталявання.

Трэці напрамак, які, паводле прагнозаў спецыялістаў, абяцае вялікую аддачу, — выкарыстанне біягазу, перапрацоўка на буйных жывёлагадоўчых комплексах гною ў метан. Атрыманы такім чынам газ здольны абагрэць не толькі саму ферму, але і пасёлак жывёлаводаў. Першы «пераўтваральнік» зманціраваны ў Брэсцкай вобласці. Магутнасць «здабытчыка» прыроднага газу запраграміравана так, каб сыравіна не спальвалася поўнасцю, але часткова, ачышчаная ад нітратаў і мікробаў, заставалася для ўгнаення глебы.

Энергія ветру і сонца з-за кліматычных фактараў у рэспубліцы пакуль што амаль не выкарыстоўваецца. Некалькі ветракоў і сонечных батарэй, устаноўленых у розных раёнах Беларусі, сёння маюць хутчэй эксперыментальны, чым прамысловы інтарэс.

— І ўсе ж, калі развіццё ўсіх нетрадыцыйных відаў можа даць дадаткова 4—6 працэнтаў энергіі, то ад больш эканомнага выкарыстання старых, адпрацаваных тэхналогій рэспубліка атрымае ў пяцьсем разоў больш святла і цяпла, — каменціруе сітуацыю Леў Дубовік. — Зімой з-за ўцечкі цяпла праз вокны і сцены страты асабліва вялікія. Таму нашы спецыялісты думаюць не толькі над тым, як больш атрымаць энергіі, але і як ёю лепш распарадзіцца. Спрабуем, напрыклад, наладзіць выпуск энергазберагаючых вокнаў. Ёсць папярэдняя дамоўленасць з брастаўчанамі, але штосьці не спяшаюцца з адказам амерыканскія калегі, у якіх ёсць тэхналогія.

Гэта не толькі клопаты аб спажыўцу. Шматразовае павышэнне цэн на сыравіну, якую Беларусь амаль поўнасцю атрымлівае звонку, проста вымусіла нас спалучаць пошук рэсурсазберагаючых тэхналогій з палітыкай энергазберажэння. Для гэтага пры рэспубліканскай міжведамаснай камісіі па эканоміі матэрыяльных рэсурсаў арганізавана рабочая група. Спецыялісты, якія ўвайшлі ў яе, дзейнічаюць адразу ў некалькіх напрамках. Гэта распрацоўка эканамічнага механізма, здольнага, калі не зацікавіць, то прымусіць спажыўцоў больш пагаспадарску адносіцца да энергіі, стварэнне бытавых прыбораў для рэгістравання расходу цяпла, складанне балансу выкарыстання энергіі прадпрыемствамі, забеспячэнне прадпрыемстваў абсталяваннем, якое дазваляла б своечасова «пераводзіць» лішкі цяпла з аднаго аб'екта на другі. Не забыты і такі важны аспект, як падрыхтоўка рабочых, асноўнай спецыяльнасцю якіх будзе энергазберажэнне. Першы крок на гэтым шляху ўжо зроблены. Беларусь — пакуль што адзіная рэспубліка, якая распрацавала такі механізм эканамічнай зацікаўленасці. Ён яшчэ не дасканалы, даволі просты па набору стымулаў, але гэта ўжо своеасаблівы трамплін для далейшага руху — укаранення льготнага падаткаабкладання ўрадавых крэдытаў і пазык для найбольш эканомных энергакарыстальнікаў. Створаны ўжо і рахунак энергазберажэння рэспублікі, сродкі з якога пойдуць на фінансаванне далейшых навукова-практычных праграм.

**А. ЛІПСКІ, кар. БЕЛТА.**

# IV. Наша незалежнасць

Лёс падараваў Беларусі незалежнасць. Жнівеньскім вечарам яна звалілася як снег на галаву. Яшчэ за тыдзень да галасавання ў Вярхоўным Савеце БССР ніхто не спадзяваўся на такое развіццё падзей.

Гісторыкі-храпікёры з часам даследуюць усе прычыны і абставіны, якія таму спрыялі. Аддадуць належнае намаганням БНФ і іншых сталых прыхільнікаў незалежнасці; напэўна, будуць спрачацца аб ролі дэмакратычных рухаў і ўрадаў саюзных рэспублік, якія паказалі прыклад; бясспрэчна, абгрунтуюць неадольнасць імкнення народа да самавызначэння, растлумачаць нашым нашчадкам многае з таго, што мы цяпер дрэнна разумеем альбо ўвогуле не заўважаем.

Галоўнае, аднак, і сёння ляжыць на паверхні грамадскага жыцця, і не заўважаць яго нельга. Абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь выклікала самыя розныя настроі ў людзей: ад шчырага энтузіязму да скептыцызму і нязгоды.

Сярод няўцешных скептыкаў, відавочна, пераважаюць мігранты, людзі, якія калісьці пераехалі ў Беларусь з іншых рэгіёнаў СССР. Змяняючы месца жыхарства, яны, можа, і не задумваліся, што едуць не толькі ў іншы горад ці вобласць, але і ў іншую рэспубліку. Такія былі парадкі ў краіне і ментальнасць «савецкага народа». Суцешаць іх час і рэальнасці жыцця ў Беларусі, калі яны будуць змяняцца да лепшага.

Але настроі песімізму пануюць і сярод сталых жыхароў рэспублікі, у тым ліку і сярод беларусаў. Выказваюцца нават сумненні ў мэтазгоднасці абвяшчэння незалежнасці і жыццяздольнасці самастойнай краіны. Аргументуецца гэта тым, што нібыта няма гістарычных традыцый беларускай дзяржаўнасці, ніколі не было сапраўднага нацыянальна-вызваленчага руху, беларуская мова не ёсць мова агульнанародная, эканамічна незалежная Беларусь не спраўдзіцца, бо занадта бедная на карысныя выкапні, і нарэшце — геапалітычнае становішча неспрыяльнае.

З другога боку палітры грамадскіх настрояў можна пачуць бадзёрыя галасы аптымістаў. Незалежная Беларусь — нейтральная дзяржава. Сваё войска. Ніякіх саюзаў з былой метраполіяй. Бліжэй да Еўропы. Будзем гандляваць з усім светам. Адродзім мову і нацыянальную культуру. Не прападзём!

Без сацыялагічных даследаванняў можна смела сцвярджаць, што пераважная большасць насельніцтва рэалістычна адносіцца да бегу падзей. Дамінуюць настроі развагі, заклапочанасці, турботы аб заўтрашнім дні. Такі ўжо псіхалагічны склад нашага народа.

Агульная сума грамадскіх настрояў і адносін да перспектыў незалежнай Беларусі мала радуе. Эканамічнае і палітычнае станаўленне дзяржавы, стварэнне годных умоў жыцця яе грамадзян нельга забяспечыць толькі галасаваннем у парламенце, нават і аднадушным. Важным, а можа і найважнейшым, чыннікам развіцця павінны стаць эмацыянальны ўздым і самаадданыя намаганні ўсяго народа. І наадварот, раўнадушнасць, абыякавасць да агульнадзяржаўных спраў, глыбокая адасобленасць інтарэсаў грамадзян у нашых эканамічных, палітычных і геапалітычных умовах уяўляюць сур'ёзную небяспеку. Нам не хапае нафты, вугалю, пшаніцы, знешняй падтрымкі, але больш за ўсё не хапае нацыянальнай годнасці, патрыятызму.

Спіс недахопаў нашага суверэнітэту пачнём з адзначанай скептыкамі праблемы гістарычных традыцый беларускай дзяржаўнасці. Цяжка таму пярэчыць, што ў свядомасці беларусаў ледзьве не згасла адчуванне свайго далёкага мінулага, нацыянальнай самабытнасці на шляхах гісторыі. Амаль згублена памяць аб пачатках, уздыме, славутых падзеях беларускай дзяржавы. І не дзіўна, бо беларуская гістарычная навука ў мінулыя дзесяцігоддзі паслухмяна пагадзілася з патрабаваннямі цэнтра адмовіцца ад усякіх нават намёкаў на існаванне некалі дзяржавы ў беларусаў.

**Нагадаем коратка сутнасць справы. З дакладных гістарычных крыніц вядома, што пачаткі дзяржаўнасці ў нашых продкаў з'явіліся задоўга да ўтварэння Кіеўскай Русі. Але і ўвайшоўшы ў склад старажытнарускай дзяржавы ў IX стагоддзі, прынамсі, полацкая зямля захавала важнейшыя атрыбуты сваёй дзяржаўнасці — вярхоўную ўладу веча, княжацкі прастол і іншае. Пасля распаду Кіеўскай Русі беларускія княствы перажылі працяглы, да двух стагоддзяў, перыяд «параду суверэнітэтаў». Пагроза іншаземнага зняволення падштурхнула да аб'яднання ў адзіную дзяржаву. Беларускі горад Новагародак (Навагрудак) на стагоддзе раней за Маскву ўзяў на сябе гэтыя працу і гонар.**

**Амаль два з палавінай стагоддзі беларуска-літоўская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае — была адной з буйнейшых у Еўропе. Неспрыяльныя знешнія ўмовы (агрэсія татар, немцаў, шведаў і асабліва вострая канфрантацыя з памацнеўшым маскоўскім царствам) прымусілі Вялікае княства пайсці на канфедэрацыю з польскім каралеўствам, а потым, у канцы XVI стагоддзя, на аб'яднанне з ім у складзе новай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. І яшчэ больш двух стагоддзяў існавала аўтаномнае беларуска-літоўскае княства з усімі атрыбутамі дзяржаўнасці. У канцы XVIII стагоддзя Рэч Паспалітая развалілася пад націскам агрэсіўных суседзяў, Беларусь увайшла ў склад Расіі і аж да 1918 года была пазбаўлена ўсякіх правоў на самакіраванне, не гаворачы аб незалежнасці.**

**З 12 стагоддзяў гісторыі, вядомай нам па пісьмовых крыніцах, Беларусь толькі на працягу нейкіх 12 дзесяцігоддзяў, знаходзячыся пад скіпетрам расійскай кароны, не мела сваёй дзяржаўнасці. Але за гэты час расійская афіцыяльная прапаганда паспела нарабіць нямала шкоды нацыянальнай свядомасці і гістарычнай памяці народа. Прыдворная гістарыяграфія дбайна ахоўвала масквацэнтрычныя канцэпцыі гісторыі ўсходніх славян, таму паўстанне Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага тлумачылася як захоп заходнерускіх зямель літоўцамі; утварэнне Рэчы Паспалітай — як рабаўніцтва іх з боку Польшчы, а ўключэнне ў склад Расіі — вякамі чаканае вызваленне. На такім гістарычным падмурку ажыццяўлялася прымусовая русіфікацыя, рэальнай была пагроза знікнення нацыі.**

## Нататкі палітолага

Дадатковым адмоўным фактарам для беларускага нацыянальнага руху ў той перыяд былі вялікадзяржаўныя рысы нацыянальна-вызваленчай барацьбы суседзяў і братоў па няшчасцю — палякаў. Дамагаючыся аднаўлення сваёй дзяржаўнасці, польскія дзеячы наўмысна блыталі межы Польшчы з межамі Рэчы Паспалітай, аб'ектыўна тым самым супрацьдзейнічаючы адраджэнню Беларусі.

Пасля рэвалюцыі ў Расіі паўстала БНР, а потым БССР як тэрытарыяльная і культурная аўтаномія насельніцтва Беларусі. Аднак масквацэнтрычная канцэпцыя гісторыі не толькі не была скасавана, але і ўзмацнілася палажэннем аб тым, што толькі сацыялістычная рэвалюцыя і савецкая ўлада маглі даць і далі нарэшце беларускаму народу і свабоду, і дзяржаўнасць, і магчымасць культурнага адраджэння.

У суме маем каля двухсот гадоў прымусовага занядбання сваёй гісторыі, вытокаў і традыцый дзяржаўнасці. І таму не дзіва, што вялікая колькасць суайчыннікаў успрымае абвяшчэнне незалежнасці Беларусі з недаверам, як нейкае цалкам новае, можа, нават штучнае нацыянальна-дзяржаўнае ўтварэнне.

Выпраўляць становішча трэба неадкладна. Паклікаць гісторыкаў і стварыць ім мінімальныя ўмовы для працы. Увесці курсы гісторыі Беларусі ў вышэйшых навучальных установах. У сярэдняй школе памяняць месцамі гісторыю Беларусі з гісторыяй СССР. Падрыхтаваць і надрукаваць новыя падручнікі, дапаможнікі. Запрасіць на дапамогу пісьменнікаў, кінематаграфістаў, мастакоў, скульптараў.

Адраджэнне гістарычнай свядомасці, колькі б гэта ні каштавала, звернецца бясцэннымі каштоўнасцямі. Гісторыя народа — гэта першы падмурак яго патрыятызму.

Але ж не толькі гістарычнай свядомасцю будзе жыць Беларусь. Яшчэ зусім нядаўна з трыбуны высокіх сходаў, са старонак газет аўтарытэтныя спецыялісты перасцерагалі рэспубліку наконт эканамічнай самастойнасці. Як боская кара падавалася адсутнасць большасці карысных выкапняў. І гэта прапаганда мае свае вынікі: у свядомасці людзей укаранілася пачуццё абдзеленых прыродай, навечна асуджаных на ролю ўтрыманцаў у сям'і савецкіх народаў.

І толькі 25 жніўня ў Вярхоўным Савеце старшыня ўрада афіцыяльна заявіў, што Беларусь можа ўтрымаць сябе сама. Каб людзі паверылі, трэба шмат разоў гэта паўтараць, ды з абгрунтаванымі разлікамі, з дэталёвай праграмай эканамічнага развіцця незалежнай рэспублікі. Беларусі ўжо даўно не хапае не столькі сыравіны (іншыя дзяржавы не надта аб гэтым турбуюцца), колькі разумнай эканамічнай палітыкі, прывабнай гаспадарчай ідэі, якая аб'яднала б народ у сумесным імкненні да заможнасці і дабрабыту.

Не хапае людзям пачуцця гаспадароў свайго краю, сваёй справы, сваёй зямлі, упэўненасці ў тым, што ўлады (цяпер ужо беларускія, але гэта малое суцяшэнне) не змарнуюць вынікаў іх цяжкай працы. Незалежная Беларусь не ў стане забяспечыць у бліжэйшы час сваім грамадзянам высокіх стандартаў жыцця, але яна можа стварыць самыя спрыяльныя ўмовы для таго, каб кожны сам мог паклапаціцца аб гэтым.

Чакае свайго часу абабраная камуністычнай фразеалогіяй ідэя спалучэння асабістай матэрыяльнай зацікаўленасці з агульнымі дзяржаўнымі інтарэсамі. У СССР, агромністай, разнароднай краіне, немагчыма было стварыць маральна-палітычны клімат сапраўднага гаспадарчага патрыятызму, айчыннасці. У невялікай дзяржаве людзі адчуваюць сябе бліжэйшымі адзін аднаму, больш цэняць працу суседзяў, суайчыннікаў, маюць больш падстаў да шырокай кааперацыі намаганняў на карысць сваёй і агульнай заможнасці.

У спіс недахопаў нашага суверэнітэту трапіць і нізкая палітычная культура, перш за ўсё каманднa-бюракратычныя адносіны ўлад да грамадзян. Усе дзяржаўныя структуры і функцыянеры павінны ўсвядоміць, што высокі гонар і годнасць беларускай дзяржавы раўняюцца, а не перавышаюць гонару і годнасці аднаго асобнага грамадзяніна. Да такой высновы грамадства дэмакратычных краін ішло стагоддзямі. У нас на эвалюцыю часу няма. Дэкларацыі і законы аб дэмакратычных змяненнях мусяць матэрыялізавацца ў адпаведных арганізацыйных умовах і маральна-палітычным клімаце адносін дзяржаўных устаноў да чалавека. Наша беларуская ўлада (і няважна, што часам тыя самыя людзі засталіся ў тых самых кабінетах) бачыцца бліжэйшай да чалавека, больш справядлівай, больш чулай, лепшай, чым папярэдняя, савецка-саюзнага паходжання. Толькі тады дзяржава, яе ўрад змогуць разлічваць на разуменне і падтрымку грамадзян у справах цяжкіх, непапулярных ці ў час небяспекі.

Відавочны непакой грамадскасці выклікае ігнараванне незалежнасці Беларусі за мяжой, сапраўдная інфармацыйная блакада. Гэта становішча патрабуе сур'ёзных даследаванняў. Але некаторыя з прычын такіх халодных адносін да новапаўсталай дзяржавы міжнароднай садружнасці можна вызначыць і зараз.

Па-першае, замежная дэмакратыя не паспела прыгледзецца да нацыянальнага руху на Беларусі, ацаніць яго і адарыць павагай. Падазронасць і, улічваючы заходнееўрапейскую ментальнасць, — справядлівую, выклікала працэдура абвяшчэння незалежнасці, інструментальны падыход да такой гістарычнага значэння справы з боку дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР.

Па-другое, на Захадзе, ды і на Усходзе не кожны нават дасведчаны чалавек можа адказаць на пытанне, хто такія беларусы і дзе яны знаходзяцца. Як ні крыўдна, але мы гэтага заслугоўваем. Народу, які не памятае сваіх вытокаў і які згубіў гістарычнае пасведчанне аб сваім паходжанні, цяжка ўпісацца ў еўрапейскую садружнасць, дзе кожны ведае сваю шматвекавую радаслоўную і ганарыцца ёю, шануе кожны камень, пакладзены продкамі ў брук.

**Уявім сабе сітуацыю, калі нікому не вядомы чалавек, з не найлепшым выглядам і нязграбнымі манерамі, увальваецца ў шляхетную кампанію, дзе ўсе госці добра паміж сабой знаёмыя, і патрабуе месца за агульным сталом і павагі да сябе. У добра выхаваным таварыстве новага госця павітаюць, але адносіцца да яго будуць асцярожна, адпаведна яго інтэлекту і паводзінам.**

Па-трэцяе, міжнароднае становішча Беларусі ў апошнія гады ўскладніла палітыка яе ўлад. Дзіўнымі выглядалі заліхвацкія тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседняй Літвы, зробленыя па першаму кіўку пальца з Масквы. Разлічаныя на знешні эфект, а не на добрасуседства былі некаторыя захады ў адносінах да Польшчы. Слаба абгрунтаванай з нашага боку здаецца палеміка аб правах суродзічаў-беларусаў у той жа Польшчы, не браўшая пад увагу, што яны там маюць і палітычных, і эканамічных правоў значна больш, чым палякі ў Беларусі і нават самі беларусы ў сваёй дзяржаве. Нарэшце, як ні дапякае нашаму грамадству чарнобыльскі боль, але звужэнне знешнепалітычнай актыўнасці толькі да гэтай праблемы наўрад ці будзе спрыяць нацыянальным інтарэсам рэспублікі за мяжой. Хіба толькі, калі заранёй пагадзіцца з вобразам Беларусі, як жабрачкі Еўропы.

Геапалітычнае становішча Беларусі характарызуецца складанымі і далікатнымі абставінамі. У актуальных умовах тэрыторыя рэспублікі нагадвае калідор паміж Усходам і Захадам. Ёсць у гэтым свае эканамічныя і палітычныя плюсы. Абы толькі не з'явілася спакуса ператварыць калідор у чые-небудзь сенцы.

Спіс недахопаў і праблем маладой рэспублікі можна доўжыць бясконца. Але час рабіць высновы. Адзіным падзвіжнікам, які можа ўзняць народ Беларусі на вышыню сучаснай цывілізацыі, бачыцца абуджаная годнасць, патрыятызм, але не праз фанатычны нацыяналізм, а ў стваральнай энергіі, творчасці, штодзённай працы на карысць сабе, людзям, Рэспубліцы. Новапаўсталая дзяржава апраўдае сваё існаванне, калі ўрухоміць гэту энергію.

**Леанід ЛОЙКА.**